Папраўка: У аддзеле „Як зрабіць сявалку“ першы радок трэба чытаць: „Частку „Н“ сагнеце ў 6 мясцох...

## ЯК ЗРАБІЦЬ ТРАКТАР

Наклейце асобныя часткі на тоўстую паперу. Цяпер пачынайце работу. Вазьмеце частку „А“ (радыятар) і сагнеце ў мясцох, што адзначаны кропкамі. Пасьля вазьмеце пярэднюю і заднюю частку радыятара „Б“ і, сагнуўшы па кропках, склейце з часткаю „А“. Склейвайце так, каб лічбы 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 і 9 папалі адна на другую. Затым прыклейце радыятар на аснову „В“, адзначаную лічбай 1.

Далей бярэце частку „Г“, сагнеце яе ў 2-х мясцох па кропках і прыклейце накрыўкі на колы 14 і 15. Месца для сядзеньня „Д“ сагнеце ў 6 мясцох па кропках і прыклейце да сярэдзіны частку „Г“. Прыклейвайце так, каб лічбы 10, 11, 12 і 13 папалі адна на другую. Усю склееную частку пастаўце на другім канцы асновы „В“, на месцы, адзначаным літарай „Г“. Колы наклейце на фанэру ці на тоўсты картон і надзеньце іх на драўляныя кіёчкі (восі). Надзявайце так, каб колы круціліся.

Цяпер зрабеце руль. Бярэце палоску „Е“, прыклейце да яе кола „Е“ і ўмацуйце на сярэдзіне асновы „В“, на мясцох, што адзначаны літарай „Е“. Калі зробіце ўсё гэта правільна, трактар будзе гатовы.

## ЯК ЗРАБІЦЬ СЯВАЛКУ

Частку „М“ сагнеце ў 6 мясцох па лініях, што адзначаны кропкамі. Сагнуўшы, склейце так, каб папалі часткі 1 на 1. Да лічбаў 2 і 3 прыклейце яе бакавыя часткі „К“.

Частку „М“ сагнеце па лініі 4 і падклейце да нізу скрынкі „Н“, што адзначана лічбай 4, а з бакоў пастаўце колы.

